*—Людзьмі звацца!*

*Янка Купала*

# ЛіМ

ГАЗЕТА ТВОРЧАЙ ІНТЭЛІГЕНЦЫІ БЕЛАРУСІ

ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА

ПЯТНІЦА

22

СТУДЗЕНЯ

1993 г.

№ 4 (3674)

ВЫХОДЗІЦЬ з 1932 г.

КОШТ 3 рублі






# ВОБРАЗ БІТВЫ І ВОБРАЗ ЖНІВА

## 130 гадоў назад пачалося паўстанне пад кіраўніцтвам К. Каліноўскага

З самага пачатку паўстанне Кастуся Каліноўскага было асуджана на паразу: шляхта і сяляне, узброеныя косамі ды паляўнічымі стрэльбамі, — супраць рэгулярнай арміі Расійскай імперыі. З якога боку ні глядзі, тыя, хто ў студзені 1863 года кінуў выклік чорнаму двухгаловаму арлу, маглі спадзявацца толькі на цуд. Альбо на Бога. Але цуду не адбылося, а Бог трымаў нейтралітэт. Паўстанне было асуджана яшчэ і таму, што ў Варшаве і Вільні людзі па-рознаму разумелі перамогу, ішлі змагацца за розныя мэты, хоць і пад адным сцягам. Дзеячы з Варшавы марылі адкруціць кола гісторыі на сто год назад, Каліноўскі і яго паплечнікі глядзелі на сто год наперад. У Варшаве марылі аб адраджэнні шляхецкай вольніцы Рэчы Паспалітай, Каліноўскі ж бачыў у гістарычнай перспектыве дэмакратычную федэрацыю вольных народаў — беларусаў, жмудзінаў, палякаў. Нават калі б уявіць немагчымае: у 1863 годзе землі колішняй Рэчы Паспалітай выраваліся з кіпцюроў двухгаловага арла, — для беларусаў і жмудзінаў гэта сталася б не перамогай, а толькі этапам у барацьбе. Бо, карыстаючыся слабасцю нацыянальных рухаў на Літве (у Беларусі і Жмудзі) палякі абавязкова ўсталявалі б тут свой лад. Белы арол нічым не лепшы за чорнага. У гэтым ліцвіны ўпэўніліся ўжо ў XX стагоддзі, калі Польшча, прыдбаўшы незалежнасць, перш-наперш рушыла свае войскі на абшары Беларусі, Украіны, Жмудзі.

Вось што пісаў пра польскую палітыку ў 1919 годзе Кастусь Езавітаў: «Нягледзячы на яўную відавочнасць сваіх брудных намераў, палякі так спрытна павялі справу падрыхтоўкі грамадскай думкі ўсіх краін да неабходнасці аднаўлення Польшчы ў межах 1772 г. і ўвялі ў зман ледзь не ўсе народы. Яны пачалі з таго, што на працягу 126 год, на ўсіх перакрыжаваннях і плошчах Еўропы і нават Амерыкі на чым свет стаіць лаялі Расію, і настойліва прывівалі думку пра тое, што палякі «зусім не тое, што рускія варвары», што палякі адзіны славянскі народ, які засвоіў усю вышыню еўрапейскай культуры, што палякі з'яўляюцца носьбітамі ідэй свабоды, роўнасці і брацтва.

Слабое веданне гісторыі славянства і поўнае невуцтва ў этнаграфіі, а таксама страх перад хутка растучай Расіяй прымусілі ўсе народы Еўропы, якія бачылі ва ўсіх буйных сталіцах рускія сцягі, думаць пра аднаўленне Польшчы, перашкоды для Расіі ў наступленні на Захад. Пра беларусаў, літоўцаў і ўкраінцаў з прычыны слабага развітага нацыянальнага іх жыцця Еўропа не ведала. Калі адрадзіўся нацыянальны рух, палякі сустрэлі яго варожа, як «халопскі рух», і перад Еўропай асвятлялі гэтыя рухі, як чыста польскія».

Здрадай Польшчы трэба тлумачыць і паразу Слуцкага збройнага чыну ў 1920 годзе. Палякі не падтрымалі абаронцаў Беларускай Народнай Рэспублікі, хоць мелі такую магчымасць. Бо не жадалі бачыць Беларусь дзяржавай.

Калі польскія шавіністы трактавалі паўстанне Каліноўскага як «халопскі рух», а самога Кастуся лічылі за здрадніка і «ліцвіна-сепаратыста», дык іх расійскія калегі разглядалі паўстанне, як «польскае». Бо нельга ж было прызнаць, што беларусы паўсталі супраць «старэйшага брата».

1863 год дагэтуль не адлюстраваны як належыць ні ў гістарыяграфіі, ні ў мастацтве Беларусі. Але ўжо ёсць арыгінальныя творы, дзе паўстае праўдзівы вобраз герояў-паўстанцаў. **Сёння мы друкуем работы маладога скульптара Генадзя ЛОЙКІ «Прысяга паўстанцаў» і праект помніка тым слаўным дням: косы, прылады сялянскай працы і зброя паўстанца, сабраныя ў сноп. Вобраз бітвы і вобраз жніва.**

Асэнсоўваючы мінуўшчыну, мы рухаемся наперад. Шануючы памяць дзядоў, будуем лепшы свет для нашых дзяцей.

**Пётра ВАСІЛЕЎСКІ.**

# Кола Дзён

Палітычнае жыццё ў краіне на гэтым тыдні развівалася па нарастаючай. 19-га студзеня распачала работу чарговая сесія Вярхоўнага Савета Беларусі, 20-га — адбылася сустрэча міністраў замежных спраў краін СНД, 21-га—сустрэліся міністры абароны, сёння, 22-га студзеня, адбудзецца, нарэшце, сустрэча кіраўнікоў дзяржаў СНД, якая некалькі разоў адкладвалася. Такі насычаны падзеямі тыдзень не дазволіў не толькі кіраўнікам Беларусі С. Шушкевічу і В. Кебічу, але і кіраўнікам іншых дзяржаў Садружнасці прыняць удзел у цырымоніі з выпадку ўступлення на прэзідэнцкую пасаду Біла Клінтана. У Вашынгтон на ўрачыстасці паехаў... каардынатар рабочай групы СНД Іван Каратчэня. Маўр зрабіў сваю справу, маўр можа... адпачываць?

## ПАДЗЕЯ ТЫДНЯ

У Вільні аднавіла сваю дзейнасць забароненае польскімі ўладамі ў 1937 годзе Таварыства беларускай школы. Старшынёй таварыства абрана Лілея Плыгаўка. «ЛіМ» спадзяецца, што беларускі ўрад дапаможа таварыству акрыяць і стаць на ногі, забяспечыць беларускамоўныя школы і класы, якія будуць створаны на этнічна-беларускіх землях, падручнікамі і дапаможнаю літаратураю, як гэта робіць урад літоўскі ў дачыненні да сваіх суайчыннікаў.

## НАВІНА ТЫДНЯ

Міністра замежных спраў Беларусі П. Краўчанку прыняў у Парыжы Генеральны сакратар ААН Бутрас Галі. У час сустрэчы былі абмеркаваны праблемы Чарнобыля і пытанні ўмацавання адносінаў паміж Беларуссю і ААН. П. Краўчанка запрасіў Бутраса Галі наведаць Беларусь.

## СУСТРЭЧА ТЫДНЯ

У дзень адкрыцця сесіі С. Шушкевіч сустрэўся з групай калгаснікаў і рабочых саўгасаў Мінскай вобласці, якія прыехалі на плошчу Незалежнасці пратэставаць супраць прыняцця закона аб прыватнай уласнасці на зямлю, супраць, як патлумачылі ім кіраўнікі гаспадарак, якія і арганізавалі аўтобусны вояж у Мінск, роспуску калгасаў. Тым часам у Мінску ў Доме літаратара сабраліся фермеры. У іх — свае праблемы.

## АДМЕТНАСЦЬ ТЫДНЯ

З 18 студзеня прадпрыемствам гандлю забаронена праводзіць несанкцыянаваны абмен расійскіх рублёў на разліковыя білеты Нацыянальнага банка Беларусі. Для такога абмену ва ўсіх гарадах Беларусі адкрыты спецыяльныя пункты, і праводзіць гэтыя аперацыі цяпер можна толькі тут. Урад рэспублікі забараніў вываз беларускіх грошай за межы краіны. З сабою можна ўзяць суму не большую за тры мінімальныя аклады, пры ўмове, што грошы за межамі Беларусі не будуць абменены. Расійскія рублі можна вывозіць вольна, у неабмежаванай колькасці.

## НЕВЕРАГОДНАСЦЬ ТЫДНЯ

Ужо сёлета пачне эксперыментальную здабычу золата на Беларусі навукова-даследчае геалагічнае прадпрыемства «БелГЕА». Пра гэта гаварылася на шостых штогадовых чытаннях, прысвечаных памяці прафесара Канстанціна Лукашэвіча, якія адбыліся ў Акадэміі навук Беларусі. У перспектыве — стварэнне акцыянернага таварыства па здабычы на Беларусі тытану, кобальту, цырконію...

## СЮРПРЫЗ ТЫДНЯ

Брэсцкі аэрапорт стаў... міжнародным. Дакладней, не аэрапорт, а неба над Брэстам. Літоўскі ўрад запатрабаваў ад краін СНД, найперш, вядома, ад Расіі, плаціць валютай за выкарыстанне паветранае прасторы, і авіятары СНД знайшлі сякеру пад лаўкай — стварылі новы «калідор» на Захад над Беларуссю. Беларусы зноў «выручылі», мала думаючы пра вынікі гэтай акцыі. Тым часам аэрапорт у Віцебску закрыты зусім. Няма керасіну і адменены два апошнія рэйсы: у сталіцу СНД і былую сталіцу СССР.

## ЗДАРЭННЕ ТЫДНЯ

У Магілёве, у адной са сталовых, выяўлена фальшывая 100-рублёвая купюра Нацыянальнага банка Беларусі. Самадзейны мастак намаляваў яе фламастарамі на белай паперы. Калі беларускія грошы падрабляюць — значыць, яны сталі патрэбнымі.

## КУР'ЁЗ ТЫДНЯ

Па жаданні жыхароў Докшыцкі раён жыве па сваім мясцовым часе (былым летнім), паведаміла «Чырвоная змена».Суверэнізацыя, як і прадказвалі вядомыя палітыкі і палітолагі, пашыраецца.

## «ПУБЛІКАЦЫЯ» ТЫДНЯ

Артыкул народнага дэпутата Рэспублікі Беларусь Леаніда Прывалава і палкоўніка запасу Васілія Баранава ў «Народнай газеце» пад назвай «Беларусь, Россия, БНФ» (20 студзеня). Адказваючы на стрыманы і аргументаваны артыкул З. Пазняка «Беларусь, Расія, СНД» (14 студзеня), аўтары, абвінавачваючы лідэра БНФ у аплёўванні Расіі, гэтак аплявалі Беларусь, яе гісторыю і народ, што застаецца толькі сказаць дзякуй «Народнай газеце» за плюралізм і «свабоду» слова. Разумеем «усю цяжкасць» умоў, у якія пастаўлена сваім статусам «Народная газета», але ці не час рэдакцыі пачысціцца і займець сваю лінію, а не «плываць» пачарговa направа і налева?

З НАГОДЫ

# ЗНОЎ—КЛОПАТ ГРАМАДСКІ

Набліжаецца слаўная дата ў жыцці нашага народа і нашай краіны — 75-ыя ўгодкі ўтварэння БНР. З гэтае нагоды ў канферэнц-зале Дома літаратара сабраўся аргкамітэт па правядзенні свята. За знакамітым авальным сталом тым вечарам, 19 студзеня, можна было бачыць В. Быкава (прэзідэнт Згуртавання беларусаў свету «Бацькаўшчына»), Н. Гілевіча (старшыня ТБМ імя Ф. Скарыны), З. Пазняка (лідэр БНФ), акадэміка Р. Гарэцкага (прадстаўнік АН Беларусі), В. Зуёнка (старшыня Саюза пісьменнікаў Беларусі), многіх іншых вядомых пісьменнікаў, навукоўцаў, прадстаўнікоў дэмакратычных партый і рухаў, культурна-асветных і патрыятычных таварыстваў, работнікаў друку. Адметна, што сярод утваральнікаў аргкамітэта былі і кіраўнікі вядомых акцыянерных таварыстваў А. Палюховіч («Дайнова») і Я. Грыб («Крос ны»). Была створана рабочая група аргкамітэта на чале з М. Купавам, якая будзе весці ўсю падрыхтоўчую работу па правядзенні свята ў Мінску і ў рэспубліцы, а таксама рэдакцыйная камісія, якая зоймецца падрыхтоўкай дакументаў аргкамітэта — звароту да народа Беларусі і інш. Абмеркаваны прыкладны план юбілейных мерапрыемстваў: мяркуецца правесці навукова-тэарэтычную Акадэмію, шэсце з мітынгамі ля гістарычных мясцін Мінска, урачыстую вечарыну, выставы, канцэрты.

Вось так. Зноў, як і год, два і тры назад, клопат аб адзначэнні ці не самай слаўнай і дарагой падзеі ў нашай гісторыі бярэ на сябе грамадскасць. А што ж дзяржаўныя структуры? Чаму ім, як прагучала ў адной рэпліцы ў часе пасяджэння аргкамітэта, і не сніцца такі клопат? Няўжо яшчэ і сёння некаму трэба тлумачыць і даказваць, што без Беларускай Народнай Рэспублікі, утворанай 25 сакавіка 1918 года, не было б ні колішняй БССР, ні сённяшняй Рэспублікі Беларусь? Што пачатак сапраўднай нашай незалежнасці — там, у памятным, гістарычным для нас 1918 годзе? Выходзіць, што — трэба тлумачыць, даказваць, даводзіць. Дакуль, спадарове?

Н. К.



Заіру Азгуру споўнілася 85 год. Звычайнага чалавека можна было б павіншаваць з тым, што ён проста дажыў да гэтага ўзросту. Заір жа Ісакавіч не проста жыў. Ён працаваў, плён ягонай працы яшчэ доўга будзе асэнсоўвацца крытыкамі, культуролагамі, гісторыкамі мастацтва. Адно відавочна: месца сваё ў гісторыі беларускай культуры ён займае трывала і па праву, і яго ніхто не возьмецца аспрэчваць.

Заір Азгур—гэта эпоха. Мне вельмі імпануе тое, што мэтр беларускай скульптуры не нідаецца ў крайнасці, не перакрэслівае зробленага ў маладосці: не адмаўляецца ад твораў, якія іншы мастак адсунуў бы ў далёкі кут майстэрні ці прыкрыў бы анучай. Мае творы—маё жыццё, а вы маладзейшыя, мяркуйце, якое гэта было жыццё, які быў час,—нібы гаворыць мастак. Час трагічны і супярэчлівы.

Гледзячы на творы Азгура, я думаю не столькі пра зробленае ім, колькі пра нерэалізаванае. Бо такі быў час...

Пётра ВАСІЛЕЎСКІ.

Здымак гэты зроблены ў майстэрні З. АЗГУРА 15 студзеня, у дзень яго 85-годдзя. Мастака віншуюць калегі, прадстаўнікі кіраўніцтва рэспублікі.

Фота С. ЛУК'ЯНАВА.

З ПОШТЫ ТЫДНЯ

# З КАГО ВОЗЬМЕМ ПРЫКЛАД?

Барацьба беларусаў за захаванне сваёй самастойнасці, культуры, за адраджэнне мовы, дзяржаўнасці будзе, напэўна, доўгай і цяжкай. Будзем прасіць Бога, каб болей народ наш не нёс ахвяр, каб розныя Чыкіны з натоўпам ачмураных люмпенаў не ўчынілі свой крывавы шабаш, бо збіраюцца і надалей будаваць утопію — сацыялізм. Ці ж не досыць нам канцлагераў, Курапатаў, жабрацтва і ямы, куды нас давялі «верныя ленінцы»? Прыклады барацьбы другіх малых народаў за сваё адраджэнне даюць падставы на поспех. Увесь беларускі народ, незалежна ад нацыянальнасці, павінен усвядоміць, што яго свабода, дабрабыт, годнасць, самабытнасць могуць быць захаваны толькі ў вольнай незалежнай дэмакратычнай Беларусі, дзе яшчэ не зніклі традыцыі дэмакратыі і цярпімасці.

Рух за адраджэнне ірландскай мовы, праўда, не даў спадзяваных вынікаў. Англійская мова апанавала ўсе сферы жыцця Ірландыі. Для абароны ірландскай мовы была створана грамадзянская арганізацыя «Гальская ліга». Супраць гальскага руху выстаўлялася многа розных доказаў, адным з якіх быў той, што адраджэнне ірландскай мовы «недадасць ні шэлега ні ў адну ірландскую кішэню». Ці ж гэта да болю не знаёма зараз нам, беларусам, калі былыя партыйныя функцыянеры крычаць з экранаў тэлевізараў ды палос газет, што ад адраджэння беларускай мовы «каўбасы больш не стане». Ірландскі рух не дасягнуў мэты толькі таму, што прыняў канцэпцыю двухмоўнасці: «ірландскую для сэрца і сям'і, для поля і паселішч, для думкі, для розуму і душы нацыі, англійскую для іншага выкарыстання, так, напрыклад, пры гандлёвых зносінах і да т. п.».

Дык вось, браткі беларусы, давайце будзем думаць усе разам. Ці мы пойдзем па шляху братняга чэшскага, яўрэйскага, венгерскага ды іншых малых народаў свету, што абаранілі сваю мову, самабытнасць, культуру, дзяржаўнасць, альбо возьмем прыклад з Ірландыі.

Суседнія і дальнія народы свету аказалі беларусам пачэсную велізарнейшую маральную падтрымку — прызналі Рэспубліку Беларусь як незалежную дзяржаву. Акажуць і эканамічную. Справа будзе залежаць толькі ад нас. Ці будзем мы выходзіць на плошчу Незалежнасці з каўбаснай псіхалогіяй люмпенаў, як выходзілі і плакаліся настаўнікі з патрабаваннем, каб сп. Кебіч напоўніў іх кішэні «зайчыкамі»? (Хоць пры галапіруючай інфляцыі ўсе роўна не напоўніш.) Ці выйдзем з адказнасцю свядомага грамадзяніна за лёс мовы, народа, дзяржавы, культуры, з патрабаваннем роспуску былых дзяржаўных структур, карумпіраваных чыноўнікаў, з патрабаваннем структурнай перабудовы сельскай гаспадаркі (гэта ж сусветны сорам, каб Беларусь купляла ў Польшчы бульбу), прамысловасці, з патрабаваннем затрымаць раскраданне маёмасці рэспублікі рознымі мафіёзнымі кланамі.

Любы прадстаўнік нацыянальнай меншасці, які пражывае ў Беларусі, які шануе мову беларусаў, звычаі і культуру, які знайшоў прытулак і ежу на нашай зямлі, выклікае да сябе зваротную павагу і любоў беларусаў. І кожны, хто б ён ні быў, хто патрабуе надання рускай мове на Беларусі статуса другой дзяржаўнай,—ці то дэнацыяналізаваны беларус, ці то ачмураны «чыкінец», ці то рускамоўны «брат» з «Памяці» альбо «Славянскага сабора», ці то былы партыйны функцыянер у беларускім парламенце, ці то праімперска выхаваны афіцэр,—не варты нашай павагі.

Мікола СЛАЎЯНАЎ, настаўнік-пенсіянер.
г. Белаазёрск.

ЛАЎРЭАТЫ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

# «...ПРАЎДА АДНА— ПРАЎДАЙ ЖЫЦЬ»

**Як мы паведамлялі ўжо ў першым нумары за сёлетні год, пастановай Прэзідыума Вярхоўнага Савета і Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь прысуджаны Дзяржаўныя прэміі 1992 года ў галіне літаратуры, мастацтва і архітэктуры. Падобнымі ўзнагародамі, як вядома, лепшыя набыткі ў творчай дзейнасці адзначаліся даўно. Тым не менш, гэтыя прэміі, што не лішне будзе нагадаць яшчэ раз,— адметныя. Упершыню прысуджаны прэміі суверэннай, незалежнай дзяржавы. А яшчэ — лёс вылучаных работ вырашаў абноўлены Камітэт па Дзяржаўных прэміях Рэспублікі Беларусь у галіне літаратуры, мастацтва і архітэктуры, які цяпер ўзначальвае Ніл Гілевіч. Дарэчы, у сваіх ацэнках (гэта тычылася, дарэчы, і самога вылучэння) камітэт кіраваўся новымі палажэннямі аб Дзяржаўных прэміях.**

**Вось чаму «ЛіМ», апублікаваўшы афіцыйную пастанову Прэзідыума Вярхоўнага Савета і Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь і артыкул старшыні камітэта Н. Гілевіча «Важкі ўклад у мастацкую скарбніцу Беларусі», вырашыў вярнуцца да гэтай падзеі і прадставіць чытачам лаўрэатаў яшчэ раз больш падрабязна, прытым у самых розных формах і жанрах.**

Алесь ЖУК.

Сяргей ЗАКОННІКАЎ.

Першае знаёмства — з Сяргеем Законнікавым і Алесем Жуком. С. Законнікаў за кнігу паэзіі «Заклінанне» атрымаў Дзяржаўную прэмію імя Янкі Купалы. Кніга прозы А. Жука «Праклятая любоў» адзначана Дзяржаўнай прэміяй імя Якуба Коласа.

Сёння іх партрэты побач не толькі з гэтае прычыны. Выпадак, скажам шчыра, беспрэцэдэнтны. Дзяржаўнай прэміяй адзначаны пісьменнікі, якія разам працуюць — у рэдакцыі часопіса «Полымя» (С. Законнікаў — галоўным рэдактарам, А. Жук — ягоным намеснікам), да таго ж — сядзяць у адным кабінеце. Нельга не згадаць і такую акалічнасць, што якраз у дні прысуджэння прэмій «Полымя» адзначала сваё 70-годдзе. «Полымя» — гэта лепшыя творы, старонкі беларускай паэзіі, прозы, публіцыстыкі, крытыкі і літаратуразнаўства. І ці ж не сімптаматычна, што тыя, хто ўзначальвае часопіс, самі паказваюць прыклад, як трэба пісаць.

«Заклінанне» С. Законнікава — гэта само дыханне нашага няпростага, у многім супярэчлівага часу. Лірычны герой паэта знаходзіцца на самых яго ростанях. Ён, безумоўна, наш сучаснік, але гэта не чалавек без роду-племені, а сын свайго народа. Пакрыўджанага, аднак здатнага ўзняцца з каленяў. Бо ўсё ж ёсць у яго пачуццё нацыянальнай годнасці, бо не забываецца ён пра ўласныя карані і вытокі:

**За плячыма ў мяне—**
**курганы, валатоўкі,**
**Плінфа звонкая храмаў,**
**муры,**
**камяні...**
**Стольні смутку**
**і веры нязломнае стольні**
**У дапытлівым позірку**
**строгай радні.**

За плячыма паэта —боль перажытага. За яго спіной— крокі папярэднікаў, крокі цяжкія і натруджаныя. Дзяды, бацькі, дзядзькі ідуць адтуль з небыцця. Ідуць у сны і ў сённяшнія будні. Гэтыя матывы асабліва адчувальныя ў трыпціху «Лесапавал», прысвечаным аўтарам памяці паэта Сяргея Ракіты (Сяргея Васільевіча Законнікава). Паэта і роднага дзядзькі, што назаўсёды застаўся на станцыі Сухаводнае:

**Кінуў адчай —**
**на пасты кулямётныя**
**Хлопцы пад чэргі пайшлі.**

Загінулі, не вытрымаўшы пакут у сталінскіх лагерах: «Знік недзе тут і Сярожа Законнікаў, толькі імя маё — знак... Колькі было іх — лічы па сасонніку, вырас лясны маладняк». Іншыя іншую смерць выбіралі. Не маглі, не хацелі мірыцца з няпраўдай. Не хацелі, не ставала сіл трываць далей: «Вось Ігнатоўскі ўзвёў курок нагана, ад кулі раптам гіне Чарвякоў... Іх постаці выходзяць, як з туману, каб жыць трывала ў памяці вякоў» (верш «Наган»).

Ды не толькі мінулае апякае душу лірычнага героя С. Законнікава. Сучаснае для яго — не менш трывожнае. Бо ў ім — Чарнобыль. Паэма «Чорная быль» быццам з паэтавых нерваў саткана. Што ні радок — усплеск эмоцый, што ні раздзел — роздум над тым, як жывём і як жыць павінны. Жыць, каб Чарнобыляў пазбавіцца. Духоўных — таксама. Гэта залежыць і ад усіх, і ад кожнага нас паасобку...

«...Чаму сталася гэтак, што замест святла пад канец жыцця — пустая шэрасць перааранага поля?.. Навошта пракляў бог і маці, і яго любіць гэту зямлю, усё аддаць ёй, каб атрымаць толькі шэрань, якая бясконцая, ад якой не ўратавацца тым, што заплюшчыш вочы?» Гэта ўжо разважае, узважвае пералытае галоўны герой аповесці А. Жука «Праклятая любоў» Ян Кулеш. Роздум, таксама надзіва сугучны нашаму часу, калі ці не кожны пераацэньвае тое, як жыў дагэтуль. Вось і Кулеш прыходзіць да даволі сумнай высновы: аказваецца, многае б магло быць інакш. Не пашанцавала, яшчэ як не пашанцавала яму. «Пабіты, ледзь душа ў целе», вярнуўся з вайны, а быў жа зусім юнаком. Прыдбаў як быццам і неблагую для вёскі прафесію. І павагай, аўтарытэтам карыстаўся. Павагай? Але ж ці толькі ў гэтым асабістае шчасце?! Хіба заробіш яго высокімі вытворчымі паказчыкамі і дасягненнямі! Роспачна Кулешу, калі азіраецца назад. Балюча, бо хоць і жыў не горш за іншых, не жыццё было гэта, а звычайнае існаванне. Каб кавалак хлеба мець і нешта да яго, а астатняе? «Што толку з таго, што пайшоў на трактарыста, што зарабляў увесь век? Аказваецца, шчасце не заробіш. Шчасце, быццам ад бога: альбо ўдаецца, альбо не. Гэта як каму пашанцуе».

Новая аповесць А. Жука, як і яго папярэднія творы (найперш аповесці «Халодная птушка» і «Паляванне на Апошняга Жураўля»), пра тое, як чалавек павінен быць чалавекам. У любых абставінах. Зрэз жыцця Яна Кулеша — гэта жыццяпіс і многіх з цяперашніх ветэранаў, якія, як высветлілася, застаюцца непрыкаянымі.

Аўтар «капае» глыбока. Псіхалагізм у творы аднолькава моцны ці тычыцца гэта людскіх характараў, ці аналізу падзей. У рэшце рэшт, падобнымі якасцямі вызначаюцца і новыя апавяданні А. Жука, аднаго з самых прызнаных нашых майстроў у галіне «малога жанру». Ён і пачынаў з апавяданняў, на якія адразу ж звярнулі ўвагу такія аўтарытэты, як Янка Брыль ды Міхась Стральцоў.

Паэтычная кніга С. Законнікава і кніга прозы А. Жука — у многім блізкія. Абодвух аўтараў па сутнасці хвалююць аднолькавыя праблемы. Праблемы маральнасці, духоўнасці, чалавечнасці. Пра гэта хораша сказаў заключнымі радкамі паэмы «Чорная быль» С. Законнікаў:

**Ёсць праўда адна—**
**праўдай жыць,**
**Няхай**
**і суровай,**
**і горкай...**
**У небе**
**над намі**
**стаіць,**
**Як зніч,**
**палыновая зорка.**

Яшчэ раз віншуем Сяргея Іванавіча і Алеся Аляксандравіча з высокай урадавай узнагародай і зычым ім новых творчых поспехаў!

З ПОШТЫ «ЛіМа»

# РЭЛІГІЯ І РЭАЛЬНАСЦЬ

Апошнім часам справы веры цікавяць нават тых, каму раней гэта не прыходзіла да галавы. Былыя камсамольцы, ціхія клеркі, учарашнія старшыні калгасаў і цяперашнія парламентарыі... Святароў сёння бачым у прэзідыумах, дэлегацыях, на рэпрэзентацыях і канферэнцыях усіх узроўняў.

Сярод прыхільнікаў нацыянальнага адраджэння і беларускасці размовы пра дух і веру вядуцца, аднак, вельмі практычна і па-гаспадарску: а якая ж канфесія для нашага адраджэння выгадней? Не кранаючы пакуль гэткага утылітарызму, пералічым асноўныя пункты гледжання на справу.

Першая група адраджэнцаў схілілася да уніяцтва як да «нацыянальнай беларускай веры» — галоўнае ўва ўсім уніяцтве, аказваецца, толькі тое, што гэта заўжды была «наша вера», а вось пасля яе скасавання ў 1839 годзе і пайшлі нашы беды. Няхітрая логіка падказвае, што калі уніяцтва адрадзіць, то беды аўтаматычна будуць скасаваныя.

Другая група адраджэнцаў схілілася да каталіцтва, аргументуючы тым, што беларускі каталіцызм мае багатыя і даўнія традыцыі, што нельга блытаць нацыянальнасць з веравызнаннем і называць каталіцызм «польскай верай» і што каталіцызм як сістэма светапогляду вельмі мабільны, еўрапейскі ды самы лепшы ў часы набліжэння Беларусі да Еўропы і цывілізаванага свету ўвогуле. І тут ёсць логіка: калі ўжо мы еўрапейскі народ, то і вера павінна быць еўрапейскай. А хто не зразумеў, то мы яму яе не навязваем.

Трэцяя група адраджэнцаў, быццам апаніруючы такому каталіцкаму аргументу, гаворыць, што праваслаўе ёсць самая старая вера на гэтых землях, што падаўляючая большасць беларусаў ёсць праваслаўныя, а што царква называецца «русская» ды не знае другіх моваў па-за царкоўна-славянскай, дык на гэта былі палітычна-гістарычныя ўмовы, а калі яны змяніліся, то зменіцца і царква. Нельга толькі хацець усяго сію мінуту — з часам будзе і сапраўдная аўтакефалія, і свае патрыятычныя ды беларускамоўныя святары, і ўсё астатняе...

Гаворка ідзе хутчэй пра мову — а не пра веру. І гэта вельмі сумна, бо калі мова дзяржаўная, то якая дзяржава — такая і мова. І чаму царква і касцёл павінны мяняцца менш марудна, чым марудзіць дзяржава?!

Што ж тычыцца ўплыву рэлігіі на становішча перадусім маралі грамадства і асобнага чалавека, чым, зрэшты, вера адрозніваецца, скажам, ад дзяржаўных законаў, то адчуць такі ўплыў можна праз некалькі пакаленняў. Цікавасць да рэлігіі сягоння — гэта хутчэй вонкавая цікавасць да ўсяго новага, чаго раней не ведалі ці забылі. І справа тут не толькі ў саветызацыі ды дэбілізацыі «всей страны». Калі ўжо нямецкі ксёндз Я. Дрэвэрман, прафесар тэалогіі, піша, што на Захадзе чалавек сягоння звязаны з касцёлам толькі вонкавым абрадам, але не духам, то што ж гаварыць тут!

Падсумоўваючы, трэба сказаць, што найцяжэйшай справай на шляху духоўнага адраджэння ёсць не адсутнасць святароў і святыняў, не адсутнасць дзяржаўнай палітыкі ў адносінах з царквой і касцёлам, але праблема новай евангелізацыі Беларусі. Так, новай евангелізацыі, а не адраджэння хрысціянства — цяперашняя сітуацыя так змянілася ў параўнанні з той, што была перад 1939-м ці 1914 годам, што гаварыць толькі пра вяртанне, аднаўленне, адраджэнне будзе памылкай. Больш таго. Змяніўся цэлы свет вакол нас, уся тая Еўропа, куды хочацца прыйсці і быць прынятым і прыхільнікам нацыянальнага адраджэння. І таму ў спрэчках, чыя канфесія больш карысная для Беларусі, якія святары адкуль прыязджаюць, хто ад каго павінен аддзяліцца і калі «перайсці на мову», губляецца не менш важнае: якімі будуць адносіны верніка і святара, абрадам ці духам будуць яны звязаны між сабой?

І касцёл, і царква шмат перажылі. У наскрозь каталіцкай Італіі часоў нацыянальна-вызваленчай рэвалюцыі 1848—1870 гадоў касцёл пачаткова не прыняў аб'яднанне незалежнай Італіі — дзе пасіўна, а дзе і актыўна. Тады быў прыняты шэраг антыклерыкальных законаў: выдалены з Рыма сам Папа, выслана з краю каля двухсот біскупаў, тысячы ксяндзоў, асабліва пацярпелі кляштары... І было два выйсці — альбо цярпець і спадзявацца, што вернецца даўні час, альбо прыстасавацца да новага, не да новай улады, але да новага часу, новай рэальнасці.

І вось што пісаў у тыя гады адзін з выдатных каталіцкіх дзеячаў кс. Ян Боска: «Калі ў нас адбіраюць зямлю, мы павінны пашукаць іншыя крыніцы існавання. Калі абкладаюць падаткамі, мы павінны плаціць падаткі. Калі патрабуюць ад святароў дыпломаў, нашы ксяндзы павінны атрымліваць адукацыю лепшую за універсітэцкую. Канфрантацыя нічога не дасць — трэба толькі зразумець, што сягоння азначае «аддай Богу богава, а кесару кесарава». Мы павінны выхоўваць і верніка, і адначасова грамадзяніна Італіі...».

Час паказаў, што гэта магчыма. Што можна змяніць многае ў самім касцёле, але для гэтага неабавязкова «новая Рэфармацыя» — значыць, новы раскол, спрэчкі ды парахункі. Не толькі тут, на Беларусі, вернікі і святары перажывалі цяжкія часы — варта было б паглядзець на свет: як там людзі даюць сабе рады? А пакуль што тут, дый не толькі тут, выглядае іначай.

Ніхто ўжо не памятае, колькі праваслаўных цэркваў ёсць на Украіне: дзяльба і справядлівасць (у сэнсе: дзяльба) засланілі ўсё астатняе. Сумна чытаць, што пакуль у Калькуце маці Тэрэза ратуе дзяцей у бедных і брудных кварталах, у Ірландыі ці Польшчы біскупы заклапочаныя адным: што рабіць з тымі абортамі? Таксама клопат пра дзяцей, ды не зусім таксама... А калі ўжо чытаеш, што ў Талачыне праваслаўныя б'юцца за абразы не з уладаю, а паміж царквой і царквой, — зноў дзяльба і справядлівасць? — то не хочацца ісці да такога храма.

Справядлівасць людская не мяняе свет: толькі перакручвае праз дзяльбу яшчэ раз — і правы бок аказваецца ліхім, а ліхі правым. Свет пакрысе мяняе Божая справядлівасць, калі яна ёсць...

А спрэчкі за царкоўную і касцельную мову, — зноў дзяльба! — не ўзвышаюць дух. Аказваецца, гэтая «праблема» вырашана ў цывілізаванай, як цяпер модна казаць, Італіі сто гадоў таму. Па-нашаму гэта гучыць так: святары абавязаны выхоўваць і вернікаў, і грамадзян Беларусі. Богу богава, а кесару кесарава.

Алесь ЧОБАТ.

